# ВОЛЬНАЯ БЕЛАРУСЬ

Цэна асобнага № 15 кап.

**Умовы падпіскі на 1917 год.**

| За 1 м. | За 2 м. | За 3 м. | За 4 м. | За 5 м. | За 6 м. | За 7 м. | За 8 м. | За 9 м. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 р. | 2 р. | 3 р | 4 р. | 5 р. | 6 р. | 7 р. | 8 р. | 9 р. |

Падпіска прымаяцца толькі с 1-го чысла кожнаго месяца.

Перамена адрэсу—50 коп. Пры зьмені адрэса конча прыкладаць стары адрэс.

Рукапісы павінны быць чытэльна напісаны і толькі з аднаго боку паперы. Кепска перапісаныя рукапісы ні чытацца, ні друкавацца ня будуць.

На ліставання, перасылку рукапісау і іншыя адказы-павінны прыкладацца маркі.

**Газэта палітычная, эконамічная і літэратурная.**

Год выданьня I.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Мінск, Захарауск. 18

**Умовы друку абвестак:**

(На IV боку газэты) за 1 радок шпальту 40 к. за 2 рад. 80 к. за кожны раз.

Асобам, шукаючым працы — 1 руб. за 3 радкі за адзін раз.

**№ 16. 1917 г. Панядзелак Выходзіць двойчы на тыдзень. 28 жніуня 1917 г. № 16.**



## Сіла у еднасьці.

Усё свае жыцьцё усе мы чуем адны і тыя вялікія словы:

— Сіла ў еднасьці. Сіла ў арганізацыі. Сіла ва ўзаемапомачы.

І усе мы добра ведаем, што гэта праўда. Так, лягчэй пераламаць 100 пруткоў па аднаму, як цэлую іх звязку адразу. Усе мы паасобку гэта добра разумеем, бачым і чуем, але нейкая закавыка стаіць нам на дарозі і ні дае адвагі зьліцца ў вадно цэлае. Закавыка гэтая есьць ні што іншае, як наша цемра і тые варункі мінулага, ў якіх мы жылі соткі гадоў у падданстві такога ураду, якому наша народная прасьвета і еднасьць былі страшней сьмерці. Бадай што кожны асобны чэлавек, дзякуючы свайму прыдатку, «інстынкту самаабароны», ды пад страхам уселякіх напасьці, толькі і глядзеў:

— От, абы я жыў—здароў, а сусед хай сам аб сабе дбае.

На нашых вачах, нас як бараноў рэзалі, вешалі, скуру лупілі, а мы глядзелі і маўчалі, а мо' паціхіньку й думалі:

— Балазе ні я папаўся, а суседа хай лупяць...

Такое нізкае, гідкае перакананьня зьявілася у нас на грунці «самаабароны»!.. Ці-ж ні смешна гэта? Якая тут абарона, калі сягоньня цябе лупяць—я маўчу, заўтра мне лупіць будуць—ты маўчаць-імеш?!

Нат каровы і тыя равуць, калі адну з іх воўк рэжа.

Вось што зрабіла з намі цемра, да чаго давяло нас жыцьцё пад'яромнае! Мы сталі на ніжэйшай ступені ад быдла, ад зьвера. Пчолы, мурашкі—паглядзеце на іх, як яны жывуць і што робяць. Ваўкі—ходзяць стадам, жывуць ў еднасьці. Птушкі ў вырай і з выраю ляцяць разам ў парадку. А мы?—Мы людзі, створэные па «абразу і надобнасьці Бога» дурнейшые са сваім хвалёным розумам ад гэтых нізшых твораў земных, што жывуць інстынктам (чуцьцём)! Мы дробязь у параўнаньні з імі! Мы павар'яцелі! Мы захварэлі страшэннай хваробай вузенькага суб'ектыўнага эгоізму.

Толькі гляньце, што робіцца цяпер, хаця бы ў Расіі, ні кажучы ўжо аб гэтай усясьветнай шалёнай вайне. Да чаго людзі дагаварыліся? Да чаго дарабіліся? Да чаго дайшлі? Пайшоў брат на брата, сын на бацьку, бацька на сына, парція на парцію, махляр на шчырага, жулік на махляра... Німа ні указчыка, ні прыказчыка. Усе робюць, як хочуць, а хочуць як падказвае ім «заплутаная псіхалёгія» і «хвалёны розум» ад каторых камару, птушцы і зьверу ні добра робіцца...

Ходзіць па сьвеці хтосьці і, ці то дзеля сваёй карысьці, ці то ведзьмам на пацеху, ходзіць і муціць ваду. Сягоньня мы верым аднаму махляру, заўтра другі прыходзіць—другога слухаем і другому верым, пасьля трэйцаму, чацьвертаму і т. д.

Што-ж гэта?! Хто мы? Дзе наш вобраз чэлавечнасьці?

Людзі! Брацьця! Апамятайцеся! Вазьміце вочы ў рукі, як той казаў, і прыгледзьцеся да ўсяго наўкола, а найперш і найлепі сябе разгледзьце.

Браты Беларусы! Прыгледзьцеся добра да сябе і да сваіх патрэб.

— Вы хочэце людзьмі звацца?

— Вы хочэце палепшыць свой быт?

— Вы хочэце згарнуць з душы і цела ўсю гразь, што махляры і перакінчыкі накідалі на вас?

Дык ідзіце ні чужой, а сваёй простай дарогай. Ідзіце усе разам, памятаючы раз на заўсёды, памятаючы так, каб кожная капля вашай крыві чула; каб кожная складка мазга ведала; каб уся душа ваша любоўю гарачай спазнавала:

— Адзін за ўсіх і ўсе за аднаго.

— Сіла мая—сіла усіх, сіла усіх—мая сіла.

— Хто хочэ адабраць нашу душу, той хочэ нашай пагарды, а калі мы загубім наш гонар— мы загубім воблік чэлавечы, мы стапем нявольнікамі крывавага гонару ворагаў нашых.

— Хто ні мае пашаны да свайго—ні мець-іме пашаны да чужога.

Калі гэтые словы зразумелые вам, калі вы бачыце і чуеце гэта, то ідзіце бараніць сябе усе разам, а не паасобку.

Сіла ў еднасьці.

Адзін за ўсіх і ўсе за аднаго!

I. Пілiпаў.



## Зямельнае пытанне і дзяржаўны лад.

Можна спадзявацца, што да Устаноўчаго Сойму пройдуць у большасьці дэпутаты сацыалістычнага кірунку. Грамада селянскага люду у Расіі хоць і ні сацыалістычна, але, будучы палітычна ніспелай, цёмнай, беднай і сірачнёнай зямлі, лёгка можа пайсьці у той бок, адкуль чуецца кліч: «зямля і воля.» Вось і можна думаць, што Сойм ухваліць і вынясе дужа важнае пастапаўленне: установіць у Расіі дэмакратычную рэспубліку і перадасьць усю зямлю з рук ціперашніх яе ўласьнікаў у казну, або завядзе сацыалізацыю зямлі. Мы павінны заговедзь [загадзя] разгледзіць, ці будзе гэтая зямельная рэформа карысная для беларускага народу.

Вядома, што кожны народ больш за ўсё жадае быць самавітым гаспадарам у сваём краю, і той дзяржаўны лад, які прызнаў-бы за Беларусьсю права на аўтаномію у яе этнаграфічных (дзе жывуць беларусы) граніцах, быў-бы для нас найлепшы і карысны. У рэспубліцы дабіцца гэтага лягчэй, чым у манархіі,—значыць гэты парадак дзяржаўнага ладу ня папярэчыць інтарэсам беларускага народу. Зусім іншая справа—сацыялізацыя зямлі, або пераход яе да казны. Ад мамэнту пераходу усёй зямлі у казну, у рукі Ураду—трэ' думаць, тым самым Урад набірае страшэннай сілы нэд грамадзянствам гасударства, над яго культурным, эканамічным і нацыанальным развоем. Патрэбна вялікая пэўнасьць, што Урад, узяўшы у свае рукі такую ўласьць. будзе заўсюды праўдзівым прэдстаўніком інтарэсаў усіх грамадзян гасударства, што ён ня будзе злоужываць ці махлявацъ гэтай уласьцю; што у нас будзе магчымасьць скінуць ці зьмяніць яго, калі ён нарушыць правы грамадзян. Нарэсьці, ці патрапяць самі народы у гасударстві спыніць у сябе і паміж сабою усялякія спрэчнасьці ў справах змагання на ніві эканамічнай, нацыанальнай і інш., і ці ня створаць яны многа перашкод для Ураду пры выкананні ім сваіх абавязкаў. Дагэтуль ня маем прыкладу, каб дзе на сьвеці быў такі дзяржаўны лад, які нам бажаецца завесьці. Тым-та самую трываласьць дзяржаўнага ладу ня можна згоры правідзіць і ня можна быць пэўным, што так яно станяцца, як жадаецца. Маемо прыклад на Францыі. Французы, адзін з найбольш культурных народаў у Эўропі, посьля вялікай рэвалюцыі у канцы 18-га веку, два разы парываліся устанавіць у сваём гасударстві рэспубліку і ледзьвя за трэцім разам, блізка праз 80 год посьля рэвалюцыі, здолалі умацаваць гэты лад дзяржаўнага кіравання. Ці Расія здолае за адным махам, пры сваёй культурнай адсталасьці, завесьці гэтакі лад, якога яшчэ нідзе німа (усе ціперашнія рэспублі-буржуазныя) ды яшчэ у гэткім часі, як цяпер,—нет ведама. А што будзе, калі уласьць у Расіі захопяць расійскія нацыаналісты? Дагэтуль яшчэ ніводнае культурнае гасударство ня адважылась завесьці у сябе сацыалізацыю зямлі [нацыаналізацыі? Рэд], але можна спадзявацца, што у тым гасударстві, дзе гэта будзе заведзяна, ня закасуецца гэта і пры пераходзі ўлады у рукі рэакцыі, каторая рада будзе выкарыстаць пераход зямлі пад загад Ураду, як павялічэння свае уласьці дзеля трымання людзей у кабле і абрусенні [наварота на маскалёў], пераселяючы людзей з аднае акругі у другую па свайму бажанню. Закліч—«уся зямля для працоўнікаў на зямлі» пры сацыалізацыі зямлі вядзе да роўнага падзелу і спажыткавання на роўных правах усяго зямельнага запасу у гасударстві паміж усімі ахвотнікамі працаваць сваімі рукамі на зямлі. Залежна ад гэтага,—ад ліку зямлі і працоўнікаў, кожны адтрымае кавалак зямлі, які хто зможа абрабіць сам с сямьёю, але бяз найміта, а можа і меньш таго, калі выявіцца шдахват зямлі. Пры гэтакіх парадках трудна будзе выбіцца каму-небудзь з гурту шэрых земляробаў, накуль хто сядзіць на зямлі, каторае можа хваціць на пражытак, але ні на значнейшы дастатак. Хто сойдзе з зямлі, дык на яго мейсца пасадзяць другога, бо зямля ня будзе асобнай уласнасьцю, а гасударсьцвеннаю,—значыць з яе будуць карыстаць, як з дажывотнай арэнды. Памрэ гаспадар,—нет ведама, што рабіць удаве з нялетнімі дзяцьмі: найміта або парабка ня будзе, бо хто можа працаваць, той і сам возьме зямлі. Воля—вельмі каштоўны набытак, калі народ мае магчымасьць павялічваць свой дастатак. Чалавек тым і розьніцца ад бязмоўнага стварэння, што ён ніколі ня здавальняецца тым, што мае, а пастаянна рупіцца аб тым, каб надбаць сабе як найбольш дабра, патрэбы яго пашыраюцца і праз гэта ён вытварае культурны поступ у грамадзянстві. С часам станяцца, што людзі навучацца шчыра працаваць дзеля агульнай карысьці, на грамаду,—цяпер-жа такіх людзей мала і трэба прызнаць, што ў наш час асобісты інтэрас гэта самая моцная прынука да працы. Праз тое на цэлым сьвеці шануюць ўласьнасьць, ня гледзючы на тое, што яны часта ідзе поплеч с крыўдай і паняверкай. Бяз яе людзі загразьлі-б у апатыі і, заміж пашырэння і павялічвання патрэб, зьменьшылі-б іх да ліку лёгка дабываных патрэб пражыўлення.

Беларусь—край бедны. Ані нетра яго, ані паверхні пласт зямлі ня славіцца багацьцем. Трэба многа шчырай і разумнай працы, каб мець добры зыск і аплату за працу, а разумная праца вымагае капіталу (грошы). А сушка балотаў, штучныя гноі, гаспадарскія машыны і прылады, заводы, фабрыкі і інш. вымагаюць многа грошы і асобістага пачыну (ініцыатывы), а праз гэта нам ня сьлед змагацца с капіталам (у яком сэнсі? Рэд.), а наадварот, ад творчай працы капіталу мы павінны чакаць эканамічнага (гаспадарнага) расквіту нашага краю і павялічэння у ём дастатку.

Для нас важней за ўсё, каб нам ніхто ня накладаў свае волі. Беларусь хоча жыць сваёю воляй і сваім разумам. Устаноўчы Сойм павінян даць Беларусі тэрыторыяльную аўтаномію с правам увадзіць свае уласныя распарадкі, згодныя з духам і воляю нашаго народу у поўным закрэсі усіх спраў, а ў тым ліку і справы зямельнае. Дзеля гэтага нам трэба хутчэй устанавіць Цэнтральную Беларускую Народную Раду, як на Украіні, і дабівацца асобных выбараў у Сойм, дзе нашы нрэдстаўнікі апрацуюць статут нашай аўтаноміі і акрэсьляць граніцы беларускай зямлі.

I. Раманавіч.

P. S. Заўважыўшы, што сацыалізацыя і нацыаналізацыя зямлі ні адно і тое, згаджаючыся с шаноўным аўтарам, што зямельная справа на Беларусі можа быць развязана толькі Беларускаю Краёваю Радаю і што ўсе праэкты зямельнай рэформы расійскіх партый для нас ні дапасованы,—рэдакцыя ахвотна друкуе артыкул шаноўнага аўтара. Разам с тым, рэдакцыя спадзяецца, што гэта выкліча спрэчкі і знойдуцца людзі, каторыя захочуць асьвяціць пытаньне с свайго пагляду па грунт рэчы.

Рэдакцыя.



## З вескі.

Згінуло гідкае апякунство, што цьвёрдым крокам вяло нас да нацыанальнай сьмерці.

Усё было дапасована да таго, каб дабіцца свае мэты ды яшчэ нават паказаць сябе у вачох беларусаў сябрамі і дабрадзеямі. Цёмны селянін стагнаў ад спрытнай панскай працы, але маўчаў. Ды інакш і нельга было: засьмяюць, калі адчыніш рот. «Аб ім клапоцяцца, працы не шкадуюць, каб добра жылося, вядуць аберучкі, каб не заблудзіў, стаў чалавекам, а ён яшчэ не здаволен, крывіцца! Быдлё, не йначэй!»

Лепшыя сыны Беларусі даўно гэта бачылі, даўно голасна крычалі аб зьдзеку, крыўдзі. Але апякуны празрыста уг-

